экспортнага сыр'я за межы БССР і даручыць акрсаюзам даць па гэтым пытаньню належные дырэктывы нізавой сеці.

5. Лічыць неабходным прэміраваць коопэрацыйных актывістых сялян, настаўнікаў і іншых, каму даручаецца зьбіраньне паёў, вылучая на гэту мэту ня больш 2 проц. сабраных сум, і прэміраваць прыказчыкаў за зьбіраньне збожжа і экспортнага сыр'я ў разьмеры ня больш 1 проц. сумы сабранага экспортнага сыр'я.

6. Даручыць Белрабсэкцыі разьмеркаваць па ЦРК і горпо--200.000 руб. паявых узносаў, якія павінны быць сабраны ЦРК у працягу 2-ое квадры.

## Зьбіраньне паеў—баявая задача

Праўленьне Белкоопсаюзу прапануе ўсямерна ўзмацніць зьбіраньне паявых узносаў и правесьці наступныя мерапрыемствы:

1. Перавесьці ўсе спажыўтаварыствы на 10-рублёвы ўстаўны пай. Калі адбыліся гадавыя сходы, і гэта пытаньне ня вырашана, дык паставіць яго на квартальных, або паўгадавых сходах пайшчыкаў або ўпаўнаважаных.

2. Усе пайшчыкі спажывецкіх таварысть, якія коопэраваны ў папярэднія гады, за выключэньнем беднаты, павінны аплаціць да канца бягучага гаспадарчага году поўны ўстаўны пай.

У сувязі з гэтым, саюзы павінны даць дырэктыўныя ўказаньні ўсім спажывецкім таварыствам карэнным вобразам перагледзець устанавіўшуюся практыку пагалоўнай і працяжнай растэрміноўкі паёў. Праўленьні спажтаварыстваў павінны перагледзець усе растэрміноўкі, якія дадзены ў папярэдні час серадняцкім і заможным пайшчыкам, і ў далейшым дапушчаць растэрміноўку паёў у асобных выпадках і, галоўным чынам, для бяднейшых катэгорый пайшчыкаў.

3. Тэрмінова праверыць і рабіць штомесячна праверку працы кожнага спажывецкага таварыства ў н прамку збору паявых капіталаў і ўзмацніць меры эканомічнага ўплыву на тыя спажыўтаварыствы, якія адстаюць у зьбіраньні паёў, прымаючы гэта пад увагу пры ўстанаўленьні крэдытных лімітаў для кожнага таварыства і разьмяркаваньні тавараў.

4. Адначасова трэба ўзмацніць працу па коопэраваньню працоўнага насельніцтва, у прыватнасьці беднаты, дабіваючысь ажыцьцяўленьня контрольных лічбаў у гэтым напрамку, як мінімума

5. Трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на лепшую пастаноўку абслугоўваньня пайшчыкаў і організацыю водпуску ім недахватных тавараў. Неабходна ўстанавіць праверку ў крамах спажывецкіх т-в (праз прыкашчыкаў, або загадчыкаў крам) сяброўскіх кніжак пайшчыкаў і поўнай аплаты імі паю, і ў выпадку яго растэрміноўкі—ці ўнесен пай за надышоўшыя тэрміны. Пайшчыкам, якія ня ўнесьлі належнага разьмеру паю, недахватныя тавары не адпушчаюцца. Трэба дапусьціць, каб аплата паявой завінавачанасьці ўтваралась тут-жа ў крамах шляхам набыцьця паявых марак і ўклейкі іх у сяброўскую кніжку.

Трэба загайстрыць увагу оргаддзелаў саюзаў і ўсяго інструктарскага кадру на ўзмацненьні працы па зьбіраньню паёў. Адначасова трэба зжыць такі настрой у працаўнікоў нізавой сеці, што на збор паёў імі зварочваецца вельмі мала ўвагі, і то яна бывае досыць часта выпадковаю.

Па ўзгадненьні Цэнтрасаюзу з НК РСІ СССР устанаўляецца з 1-га студзеня 28 г., уперад да адмены, штомесячны вучот коопэраваньня і руху паявых капіталаў па сеці кожнага саюзу.

## Прыняцьце шэфства

Праўленьнем БКС прынята шэфства над Новадворскім спажывецкім таварыствам, Самахвалаўскага раёну, Менскай акругі.

Менскаму аддзяленьню БКС даручана распрацаваць практычныя мерапрыемствы па абслугоўваньні Новадворскага спажывец. т-ва, як падшэфнага.

# ПА АКРСАЮЗАХ

## По кооперативным совещаниям

*(Бобруйский округ)*

Для того, чтобы ознакомить сеть потребобществ со стоящими в настоящий момент перед потребсистемой задачами, Бобруйским окрсоюзом были проведены два совещания председателей правлений потребобществ— в Бобруйске и Рогачеве.

На этих совещаниях приняло участие до 70 человек представителей п. о. Были заслушаны доклады от торгового и организационного отделов, в которых подробно были освещены стоящие перед нами задачи. Необходимо отметить большую активность, проявленную на совещаниях представителями потребобществ—по докладам выступало 40 проц. присутствовавших.

Что было принято на совещании?

1. Всемерно усилить заготовительную работу. Каждое потребобщество получило твердое задание по заготовке. Характерно отметить, что некоторые кооператоры, учитывая важность задания и, с другой стороны, свои реальные возможности по исполнению, сами предлагали увеличить количество в своих заданиях.

2. Организовать сеть кооперативных коробейников, преимущественно из среды крестьянской бедноты.

3 Установить премирование крестьян-сдатчиков сырья в кооперацию, выделяя соответствующий процент из прибылей по реализации сырья, при чем расплаты производить каждые $1^1/_2$ месяца.

4. Окрсоюзу выделить специальный фонд дефицитных товаров для отпуска тем потребобществам, которые успешнее проводят заготовку.

По части укрепления финансового положения потребобществ решено собрать в течение этого квартала 80 тыс. руб. паевых взносов по линии довнесения пайщиками недостающей до полного пая суммы и привлечения новых пайщиков.

Постановлено в тех потребобществах, в коих уставный пай не увеличен до 7 рублей, провести дополнительные собрания пайщиков и поставить вопрос об увеличении уставного пая до 10 рублей.

Задание по привлечению средств также разверстано в твердых суммах по отдельным потребобществам.

На местах к этой работе должен быть привлечен весь коопактив. Одновременно повести работу по привлечению вкладов в кооперацию.

На места выехали также ряд ответственных работников окрсоюза для практического руководства работой на местах.

Поступившие с мест первые сведения говорят о том, что перелом есть, работа оживилась.

**М. Шаевич**

---

**При каждом посещении пайщиками кооперативов необходимо справляться о задолженности этих членов и принимать все меры к покрытию таковой. Необходимо организовать обход и об'езд всех неплательщиков пайщиков с целью получения с них паевой задолженности. К этому делу необходимо привлекать широко членов совета, ревкомиссии, уполномоченных, кооперативный актив, увязывая работу с местными организациями**

# НАША ПРАЦА НА МЯСЦОХ

## Вынікі справаздачна-перавыбарчай кампаніі сельска-гаспадарчай коопэрацыі Менскай акругі

У сувязі з справаздачна-перавыбарчай кампаніяй сел.-гасп. коопэрацыі Менскай акругі была праведзена праца па пераводу с.-г. крэдытных таварыстваў на новы статут. Падрыхтоўчая праца месьцілася ў тым, што ачышчаўся балянс таварыства і складаўся проэкт разьмеркаваньня сродкаў па розных галінах працы таварыства. У тых выпадках, калі маючыхся сродкаў не хапала, складаўся проэкт папаўненьня іх, і плян працы таварыства праводзіўся ў адпаведнасьці з маючыміся і намечанымі да паступленьня сродкамі.

Гэта праца да пачатку справаздачна-перавыбарчай кампаніі скончылась, і ў выніку яе толькі ў 4 таварыствах (Грозава-Пукаўскім, Заслаўскім, Марына-Горскім і Астрашыцка-Гарадзецкім) з буйнай стратай пытаньне аб пераводзе іх на новы статут застаўлена пакуль адкрытым. Пытаньне гэтае абгаварваецца Бельсельсаюзам сумесна з Белсельбанкам, і правядзеньне сходаў у названых таварыствах назначана на канец кампаніі.

Зварочваючысь да ўжо выявіўшыхся вынікаў правядзеньня перавыбарчай кампаніі, неабходна абмовіцца, што поўных дадзеных па кампаніі ў Белсельсаюзе пакуль няма, тыя-ж матар'ялы, якія ёсьць, дазваляюць зрабіць наступныя вывады.

Усяго сходаў праведзена па 50 організацыях: з іх 21—у с.-г. крэдытных таварыствах, 7—у машынных, 9—у малочных арцелях, 4—у жывёлагадоўчых т-вах, 1—у садова-агародным, 1—у насеньняводным, 1—у пчалаводным, і 6—у сельска-гаспадарчых таварыствах. У 13 с.-г. крэдытных таварыствах, па якіх паступілі справаздачна-перавыбарчыя матар'ялы, знаходзіцца 13.469 пайшчыкаў, а ўпаўнаважаных 1.198. З гэтай колькасьці ўпаўнаважаных на сходзе прысутнічала 820, ці 70 проц., што дае павялічэньне ўпараўнаньні з мінулым годам на 7 проц.

Па маёмасным становішчы ўпаўнаважаныя разьмяркоўваюцца наступным парадкам: беднякоў 324, ці 39,5 проц., серадлякоў—482, ці 58,8 проц., і заможных—14, ці 1,7 проц. Робячы параўнаньне з размеркаваньнем на гэтакія-ж групы ўсяе масы пайшчыкаў гэтых таварыстваў, бачым, што сярод пайшчыкаў беднякоў 34,8 проц., серадлякоў—69,5 проц. і заможных—2,7 проц. Як відаць, мацней за ўсё групы ў складзе ўпаўнаважаных прадстаўлена група беднякоў. Жанчыны ў складзе ўпаўнаважаных складаюць 4 проц. У мінулым-жа годзе ўдзел жанчын раўнаўся 3,3 проц.

Па 13 таварыствах абрана ў праўленьне 43 сябры, з якіх 56 проц. беднякоў і 44 проц. серадлякоў; заможныя ў склад праўленьняў не ўваходзяць зусім. У параўнаньні з 1925-26 годам бачым, што тады было ў праўленьнях беднякоў 57,8 проц., серадлякоў 40 проц. і заможных 2,2 проц. З выбраных сяброў праўленьня 60 проц. былі ў старым складзе праўленьняў, чым забясьпечваецца захаваньне пераёмнасьці ў працы. Партыйцаў сярод сяброў праўленьняў 17 чалавек, ці 40 проц., у мінулым жа годзе—32,1 проц.

Маючыся па спэцыяльных відах матар'ял дае наступны вобраз. Машынныя таварыствы. У сходах машынных таварыстваў прымала ўдзел 100 проц. пайшчыкаў, пры чым склад гэтых пайшчыкаў па маёмасным становішчы наступны: беднякоў—20,2 проц., серадлякоў 78,6 проц. і заможных 1,2 проц. У праўленьні гэтых таварыстваў уваходзіць бедняков 33,3 проц., серадлякоў—66,7 проц. Як бачым, машынныя таварыствы таксама зьяўляюцца організацыямі серадняцка-бядняцкімі, і ў праўленьні іх беднякі

складаюць значна большы процант, чым ў агульнай масе пайшчыкаў гэтых таварыств. Жывёлагадоўчыя таварыствы. З 4 жывёлагадоўчых таварыств, у якіх праведзены справаздачна-перавыбарчыя сходы, 2 зьяўляюцца „дзікімі", г. зн., не ўваходзячымі ў саюз. Ва ўсіх 4 таварыствах ўсяго 40 сяброў, якія поўнасьцю зьяўляліcь на сходы. Соцыяльны склад сяброў гэтых таварыств наступны: беднякоў 5 проц., серадняков—85 проц. і заможных 10 проц. У праўленьні гэтых таварыстваў прайшло серадняков—91,7 проц. и заможных—8,3 проц; беднякі ў праўленьне не ўваходзяць зусім.

Малая колькасьць сяброў, іх соцыяльны склад і адсутнасьць беднаты ў праўленьнях гаворыць за тое, што жывёлагадоўчыя таварыствы зьяўляюцца замкнёнымі організацыямі больш заможных груп, аб'яднаўшыхся з мэтаю атрыманьня крэдыту і ільгот.

Малочныя арцелі. У 9 малочных таварыствах, дзе праведзены перавыбарныя сходы, яўка сяброў дасягала ад 75 да 90 проц. Па соцыяльным складу ўдзельнікі сходу разьмяркоўваюцца так: беднякоў—13,5 проц., серадняков—78,0 проц. і заможных—9 проц. У праўленьнях гэтыя-ж групы прадстаўлены так: беднякі—18,5 проц., серадняки—74,1 проц. і заможныя—7,4 проц. Тут, праўда, бядняцкія групы адносна мацней прадстаўлены ў праўленьнях, але разам з гэтым значнае месца займае таксама і група заможных.

Сел.-гасп. таварыствы. Па 4 с.-г. таварыствах ўдзел пайшчыкаў на сходах выяўляецца ў 52,5 проц. Па соцыяльным становішчы гэтыя пайшчыкі разьмяркоўваюцца наступным парадкам: беднякоў—36,6 проц. і серадняков—72,3 проц. і заможных—1,1 проц; у праўленьнях жа гэтых таварыстваў беднякоў—50 проц., серадняков 50 проц.

На сходах с.-г. крэдытных таварыстваў надзвычайную актыўнасьць выяўляюць бядняцкія групы, якія задаюць шмат пытаньняў наконт абслугоўваньня беднаты, разьмеркаваньня крэдытаў, прадстаўленьня бедняком магчымасьці працаваць пры таварыстве (падвозка тавараў і інш.). Большую актыўнасьць выяўляюць беднякі таксама пры выбарах сяброў праўленьня, і, як правіла, заўсёды падтрымліваюць кантыдатуры, якія высоўваюцца мясцовымі партыйнымі організацыямі.

Некаторую актыўнасьць выяўляюць і заможныя групы сялянства, пры чым асноўным момантам усіх іх выступленьняў зьяуляецца патрабаваньне абслугоўваньня пайшчыкаў у залежнасьці ад унясеньня паявых і з мэтаю прыцягненьня на свой бок беднаты, вядуць барацьбу супроць павялічэньня паявого ўзносу. Па апошнім пытаньні бедната часам сапраўды некалькі падтрымлівае ўносячых такую прапанову, але зараз-жа адступае, калі ёй растлумачаць тое, што разьмер абслугоўваньня залежыць ад наяўнасьці ўласных сродкаў у таварыстве, і што бедната ў сэнсе ўнясеньня паявых мае шэраг ільгот. Па пытаньні аб абслугоўваньні пропорцыянальна ўнесеным паям падтрыманьня заможныя не атрымоўвалі ні ад кога. Серадняки, ці ва ўсякім выпадку большая іх частка, цалком падтрымоўваюць беднату, патрабуючы ў той-жа час адлучэньня бедняка-гаспадара ад бедняка, які зьяўляецца такім, дзякуючы безгаспадарнасьці, гультайству, а часам і п'янству (Чэрвенскае с.-г. крэдытнае т-а).

Ва ўсіх с.-г. крэдытных таварыствах, якія скончылі гасп. год. з прыбыткам, вылучаўся фонд коопэраваньня беднаты ў 10 проц. прыбытку, што па 13 т-вах, па якіх ёсьць адпаведныя матар'ялы, складае 1.400 р.

У склад праўленьняў с.-г. крэдытных таварыстваў жанчыны не ўваходзяць, у складзе-ж саветаў таварыств удзел жанчын выяўляецца ў 12 проц.

Адступленьне ад агульнага характару дадзеных, прыведзеных па с.-г. крэдытных таварыствах, магчымы па Менселькрэдыту. Матар'ялаў па гэтым тавырыстве Белсельсаюз пакуль ня мае, аднак, вядома, што большая частка пайшчыкаў гэтага таварыства зьяўляецца ледзь ня кулацкай ці знаходзіцца пад уплывам кулацтва, а склад праўленьня адпавядае складу пайшчыкаў. Спроба правесьці ў праўленьне больш падыходных таварышоў

не ўдалася. Гэта асаблівасьць Менселькрэдыту тлумачыцца часткова і ўмовамі раёну яго дзейнасьці (гор. Менск і прыгарад), а галоўным чынам тым, што да апошняга часу гэтае таварыства было па-за сфэраю ўплыву Белсаюзу, бо не ўваходзіла сябрам ў саюз і ня было з ім зьвязана ні організацыйна, ні гаспадарча.

У спэцыяльных відах с.-г. коопэрацыі найбольшая зацікаўленасьць беднякоў выяўляецца да машынных таварыстваў, пры чым ва ўсіх выступленьнях выяўляецца патрабаваньне большай ўвагі гэтаму віду коопэрацыі з боку ўсіх вышэйста чых ворганаў. З усіх таварыстваў, дзе былі праведзены перавыбары, толькі адно Тукалаўскае машыннае таварыства зьяўляецца нездаровую коопэрацыйнаю організацыяй як па складу пайшчыкаў, гэтак і па кірунку працы—імкненьне замкнуцца, а дабытыя машыны разьмяркоўваць па гаспадарках ва ўласнасьць. Гэтае таварыства неабходна аздаравіць уцягненьнем пайшчыкаў-беднякоў і выпростваньнем лініі яго працы ў парадку інструктарскага і агрономічнага кіраўніцтва.

Нездаровы кірунак працы выяўлен у жывёлагадоўчых таварыствах, якія зьяўляюцца замкнёнымі організацыямі заможнага сялянства. Высокі паявы ўзнос і адсутнасьць хуткага экономічнага ўражаньня ад працы жывёлагадоўчых таварыстваў затрымлівае ўступленьне ў гэтыя таварыствы беднякоў. На сходах з боку беднякоў уносілісь прапановы аб тым, каб дзяржава адводзіла жывёлагадоўчым таварыствам лугавыя ўгодзьдзі з залічэньнем каштоўнасьці іх арэнды ў фонд коопэраваньня беднаты ў гэтыя таварыствы.

Як правіла, сходы ўсюды праходзяць організавана, і ў іх прыймаюць удзел прадстаўнікі Белсельсаюзу ці Белсельбанку і мясцовых партыйных і савецкіх ворганаў. Як ўжо і адзначалась, бедната і большасьць серадьнякоў поўнасьцю падтрымоўваюць прапановы, пабудованыя на падставе дырэктыў па правядзеньні кампаніі. Спробы заможных да дэзорганізатарскіх выступленьняў падтрыманьня з боку ўдзельнікаў сходаў не сустракаюць. Дзеля гэтага была спроба з боку заможных (у Путчынскім сел.-гасп. крэд. т-е) пасьля сходу пабіць прадстаўніка Белсельбанку за яго выступленьні супроць заможных на сходзе.

Матар'ялаў аб ходзе справаздачна-перавыбарчай кампаніі па колгасах пакуль што ня маецца.

**М. Пашэткін**

---

# Сельска-гаспадарчая коопэрацыя Меншчыны

За 1926/27 г. мы маем значны ўзрост нізавой сеткі с.-г. коопэрацыі Меншчыны. Разьвіцьцё яе ідзе ў напрамку, адпавядаючым патрэбам разгортваючайся сельскай гаспадаркі акругі і задачам, ускладзеным на с.-г. кооперацыю.

На 1/X 27 г. нізавая сетка с.-г. коопэрацыі акругі складаецца з 132 організацый, якія аб'ядноюць 44.250 сялянскіх гаспадарак і 276 падсобных організацый (ком. сял. узаемадапом. і інш.) Процант коопэраванасьці складае на 1/X 27 г.—36,4 (на 1/X 24 г.—8,2, на 1/X 25 г.—15,8, на 1/X 26 г.—24). З гэтых лічбаў відаць, што процант коопэраваньня за 1 год ўзрос на 12,4 проц.

Асноўным відам організацый зьяўляюцца *с.-г. крэдытныя таварыствы* (іх маецца 36), якімі аб'яднана да 90 проц. усяго коопэраванага насельніцтва. За імі, як па ліку аб'яднаньяў, гэтак і па іх значэньню, ідуць малочныя арцелі (іх маецца на 1/X27 г.—25, і яны аб'ядноюць 1.153 гаспадаркі).

Маёмасны стан пайшчыкаў крэдытных таварыстваў па гадах зьмяняецца наступным чынам:

| | На 1/X 25 г. | На 1/X 26 г. | На 1/X 27 г. |
|---|---|---|---|
| Беднякоў . . . . . | 34,9 проц. | 33,5 проц. | 33,5 проц. |
| Сераднякоў . . . | 59,7 „ | 62,4 „ | 63,5 „ |
| Заможных . . . . | 5,4 „ | 4,1 „ | 3,0 „ |

З прыведзеных даных відаць, што асноўнаю масаю пайшчыкаў у с.-г. крэдытных т вах зьяўляецца бедняцка-серадняцкая частка. Група заможных увесь час зьмяншаецца, што зьяўляецца натуральным вынікам політыкі, правадзімай с.-г. коопэрацыяй, накірованай на пераважнае абслугоўваньне беднякоў і серадНякоў.

Грашовае становішча с.-г. крэдытных таварыстваў таксама паляпшаецца: агульны балянс з 1.618.276 р. на 1/X 26 г. узрос да 2.708.010 р. на 1/X 27 г. (павялічыўся на 67 проц.), зменшылась укладаньне сродкаў у імобільныя актывы, павялічылся з 8,4 проц. балянсу да 9,4 уласных сродкі, доўгатэрміновыя пазыкі ў асноўным капітале павялічылся з 4,8 да 7,1 проц. балянсу; павялічваецца, хоць дагэтуль і мала (5 проц. балянсу), сума ўкладаў. Таксама палепшылася і вынікавая частка балянсу: выдаткі, ня гледзячы на павялічэньне зваротаў, паменшыліся як у суме, так і ў проц. да балянсу, і гэта дало магчымасьць закончыць опэрацыйны год з некаторым прыбыткам, хоць процант прыбыткаў, у сувязі з паніжэньнем накладаньняў на тавары і паменшыўся на 2,9 проц.

Вынікі працы с.-г. крэдытнай секцыі былі-б значна лепшыя, калі-б выключыць балянсы 4-х буйна-дэфіцытных таварыств, агульны дэфіцыт якіх перавышае 30 000 руб.

Гаспадарчая дзейнасьць с.-г. крэдытных таварыстваў таксама расьце хуткім тэмпам.

Дастаўчая праца адзначана прадажаю розных тавараў на 737.830 р. у 1925-26 г. і на 936.640 р. у 1926-27 г., што дае ўзрост на 30,6 проц.

Дастаўчая праца палепшылася ня толькі колькасна, але і якасна як па падбору тавараў, так і па ўзмацненьню сувязі з саюзам. У гэтым годзе мы маем значнае павялічэньне проценту с.-г. машын (з 13,4 да 33 проц.). Спажывецкіх тавараў у гэтым годзе зусім няма. Гэта кажа аб тым, што дастаўчая праца с.-г. коопэрацыі ўжо набывае характар вытворчага здаваленьня.

Набытак тавараў у Белсельсаюзе павялічыўся з 49,3 проц. да 52,4 проц, а набытак тавараў у прыватных асоб зьменшыўся з 21,3 проц. да 6,3 проц., і гэтыя 6 проц. складаюць пакупкі шорных вырабаў і некаторых прыладаў у саматужнікаў.

Сярэдняе накладаньне на тавары паменшылася з 12,6 проц. да 9,7 проц. што таксама сьведчыць аб якасным палепшаньні працы.

Збытавая праца павялічылася з 298.660 р. да 515,600 р, альбо на 72 проц. Гаспадарчая праца, як дастаўчая, так і збытавая, вядзецца яшчэ за цьвёрды рахунак, бо коопэрацыйна-пасрэдніцкі пачатак ня ўжываецца.

Крэдытная праца таварыств працякала наступным чынам:

| | На 1/X 1926 г. | На 1/X 1927 г. |
|---|---|---|
| Доўгатэрміновых . . . | 369.994 р.—39,2% | 944.596 р.—52,6% |
| Кароткатэрміновых . . | 572.962 „ —60,8% | 849.854 „ —47,4% |
| Усяго | 942.856 р.—100% | 1.794.390 р.—100% |

З гэтых лічбаў відаць, што с.-г. крэдыт пераходзіць галоўным чынам у крэдыт доўгатэрміновы, і адсюль зразумела, што ён становіцца больш эфэктыўным і адпавядаючым патрэбам разьвіваючайся сельскай гаспадаркі. Процант пратэрмінованых пазычак зьменшыўся з 8 да 4,6 проц. астачы пазык. Крэдытам таварыствы здавальнялі бедняцка-серадняцкую частку пайшчыкаў: а з усяго ліку пазычак заможныя пайшчыкі атрымалі толькі 2,6 проц.

З *спэцыяльных аб'яднаньняў* далі толькі буйны ўзрост за справаздачны год *малочныя арцелі* з 12 да 25 організацый. Аб'ем іх працы таксама значна ўзрос, за 9 месяцаў да 1/VII 27 г. прынята малака 961.626 літр., з якога 440.000 літраў перапрацована на сыр—1.060 пуд. і на масла 676 пуд., а 521.626 літраў прададзена ў цэльным відзе.

Побач з адзначанымі дасягненьнямі ў працы с.-г. коопэрацыі акругі ёсьць і шэраг недахопаў:

1) недахоп уласных сродкаў і марудны тэмп іх намнажэньня, які адстае ад узросту гаспадарчай дзейнасьці, 2) наяўнасьць у сетцы дэфіцытных таварыстваў і нездавальняючая праца па іх аздараўленьню, 3) слабая праца па працягненьню ўкладаў, 4) хоць і скараціўся, але усё-ж застаецца досыць вялікім процант пратэрмінованых пазычак, 5) нездавальняючая праца па пераводу дастаўча-збытавой працы на коопэрацыйна-пасрэдніцкі пачатак і наогул слабая дастаўча-збытавая праца, 6) нездавольняючае організацыйнае і гаспадарчае абслугоўваньне нізоўкі акругі з боку Белсельсаюзу, 7) слабае агрыкультурнае і організацыйнае кіраваньне спэцыяльнымі вытворчымі аб'яднаньнямі з боку Белсельсаюзу і Акрза, дзякуючы чаму напрамак іх працы не заўсёды здавальняючы.

Для ўзмацненьня разьвіцьця с.-г. кооперацыі акругі і зьнішчэньня недахопаў, *у далейшым неабходна:*

1. Узмацніць працу па прыцягненьню сялянства, асабліва яго беднацка-серадняцкай часткі ў с.-г. коопэрацыю і, галоўным чынам, у ея вытворчыя аб'яднаньні (машынныя таварыствы і г. д.).

2. Для больш пасьпяховага коопэрваньня беднаты неабходна ва ўсіх коопэраваных аб'яднаньнях з прыбыткаў мінулага году выдзеліць спэцыяльныя фонды коопераваньня беднаты, пры чым праўленьні таварыств павінны цалкам і правільна скарыстаць іх па прызначэньню.

3. У спэцыяльных с. г. аб'яднаньнях, праца якіх мае сувязь з тымі галінамі сельскай гаспадаркі, якія абслугоўваюцца пераважна жанчынамі (напр. малочныя арцелі), патрэбна ставіць пытаньне аб ажыцьцяўленьні сяброўства ў іх жанчынамі.

4. Усю працу с.-г. коопэрацыі будаваць на падставе суровай плянавасьці, падлічваючы як патрэбнасьці і экономічныя магчымасьці, гэтак і організацыйнае і грашовае становішча самой організацыі.

5. Асаблівую ўвагу патрэбна зьвярнуць на пытаньне аб уцягненьні ў коопэрацыйны зварот сродкаў насельніцтва. Гэта ўцягненьне павінна ісьці па лініі павялічэньня паявых, сбору спэцыяльных узносаў на дастаўча-збытавую дзейнасьць, укладаў, атрыманьня падтаварных задаткаў прадуктаў сельскай гаспадаркі для комісыйнага збыту.

6. Сурова ажыцьцяўляць крэдытную дысцыпліну, не дапушчаючы пратэрміновак ні з боку таварыстваў вышэйстаячым установам, ні з боку сяброў—пазычальнікаў свайму таварыству.

7. Дастаўча-збытавую працу пабудаваць у адпаведнасьці з патрэбамі сельскай гаспадаркі району і грашова-гаспадарчымі магчымасьцямі організацый, імкнучыся да пераводу гэтай працы на коопэрацыйна-пасрэдніцкія пачаткі.

8. Для паляпшэньня абслугоўваньня нізавой сеткі с.-г. коопэрацыі акругі неабходна організаваць акруговы крэдытны саюз.

9. Узмацніць працу па абслугоўваньню спэцыяльных вытворчых аб'я_наньняў сельска-гаспадарчай коопэрацыі акругі, для чаго Белсельсаюзу і акрза неабходна мець цесную ўвязку па гэтым пытаньню.

10. Прыняць меры да вывучэньня так званых „дзікіх" коопэрацыйных аб'яднаньняў і да прыцягненьня найбольш жыцьцёвых з іх у сыстэмы саюзу.

11. Для ўтварэньня магчымасьці скарыстаньня с.-г. машын бяднейшым насельніцтвам зьвярнуць асаблівую ўвагу на організацыю машынных таварыств, імкнучыся да таго, каб гэтыя таварыствы ў сапраўднасьці зьяўляліся організацыямі беднаты і пачатковымі ячэйкамі колектывізацыі сельскай гаспадаркі.

**М. Нямцова**

---

# Сель.-хоз. кооперация в Могилевском округе

Начало развития системы с.-х. кооперации в Могилевском округе относится к 1921 году, когда был организован целый ряд коллективных хозяйств. Эти хозяйства об'единялись союзами колхозов, которых на территории неукрупненного Могилевского округа было два—это Могилевский и Быховский. В 1923 году эти союзы были слиты в один Могилевский союз, который продолжает существовать и руководить низовой сетью до настоящего времени.

По данным на 1-е июля 1927 г., низовая сеть заключает в себе 282 об'единения, которые об'единяют 58.308 пайщиков, что составляет 41,5 проц. к общему количеству крестьянских хозяйств округа, против 31,7 проц. на 1-е октября 1926 г.

Финансовое состояние *сель-хоз. кредитных товариществ* представляется в нижеследующих данных: сумма баланса по 36 товариществам равна 2746 тыс. руб., что дает на одно товарищество 76,2 тыс. руб.; все собственные средства равны 286,2 тыс. руб., или 10,4 проц. к балансу, в то время, когда неподвижные активы равны 150 тыс. руб., или 4,9 проц. к балансу. Таким образом, собственные средства с.-х. кредитных товариществ участвуют в полезном обороте в среднем на одно товарищество в размере 3751 р.

Хозяйственная работа кредитной сети слагается из двух основных частей: ссудных операций и снабженческо-сбытовой работы. Ссудные операции в общей работе сел. хоз. кредитных товариществ занимают 62 проц.

Оперативная работа кредитной сети по снабжению населения с.-хоз. машинами, орудиями и средствами с.-х. производства за 9 мес. 1926-27 г. выразилась в отпуске упомянутых предметов на 795.456 руб. Обороты по продаже снабженческих товаров в настоящем году против оборотов прошлого года незначительно сократились, что связано с ослаблением покупательной способности крестьянских хозяйств, благодаря недороду, имевшему место в прошлом году.

Закупка товаров сетью в своем союзе составляет 42 проц. против прошлогодних 28 проц. Связь низовой сети со своим союзом хотя и увеличилась по сравнению с прошлым годом, но она далеко недостаточна.

Сбытовая работа сел.-хоз. кредитных товариществ выразилась за 9 месяцев работы в сумме 709.532 руб. Обороты настоящего года по сети бывшего Могилевского округа против оборотов прошлого года увеличились на 46 проц. В дальнейшем проведении сбытовой работы кредитной сетью следует обратить большее внимание на связь со своим союзом, которая до настоящего времени продолжает быть незначительной.

Из других видов низовой сети сел.-хоз. кооперации в Могилевском округе обращают на себя внимание *маслодельно-сыроваренные артели*, которые начали в округе зарождаться только в 1922-23 г. В настоящее время их имеется 31 об'единение, с общим количеством пайщиков в 1425 чел. Переработку молочных продуктов в округе, кроме молочных артелей, ведут еще колхозы, сел.-хоз. и сел.-хоз. кредитн. товарищества в количестве 9 об'единений. Вся сеть, ведущая работу с молочными продуктами, в настоящее время имеет сыроваренных заводов—28 и маслодельных заводов—3, а всего 31. Кроме этого, одно товарищество ведет работу по сбыту цельного молока. При этом необходимо отметить, что рынок по сбыту цельного молока в гор. Могилеве охвачен недостаточно, и в этом отношении системе с.-х. кооперации необходимо в будущем подтянуться.

Продукция сыроваренных заводов молочных артелей в 26-27 году предполагает выразиться, примерно, в размере 12.000 пуд. голландского сыра. Сбыт выработанной продукции артели производят через союз на комиссионных началах. В некоторых артелях себестоимость выработанной продукции обходится дорого (примерно, 17 р. пуд сыра). Такое положение не дает возможности успешно сбывать выработанный сыр, и если да, то

в некоторых случаях артелям приходится нести убыток. Поэтому в дальнейшей работе по этой области необходимо обращать внимание на уменьшение расходов по производству, чего можно достигнуть путем устройства более крупных заводов и, по возможности, механизированных, а отсюда вытекает необходимость об'единения мелких артелей в более крупные.

*Хозяйственное обслуживание низовой сети* окрсельсоюз производит путем снабжения сети сел.-хоз. машинами, орудиями и др. предметами, а также сбытом заготовленных первичной сетью с.-х. продуктов и сырья. Для этого в г. Могилеве имеются соответствующие склады, а для удобства низовой сети, расположенной далеко от гор. Могилева, в гор. Климовичах организовано отделение союза.

Оборот не укрупненного союза с 1 октября 26 до 1-е июля 27 г. выразился в сумме 706.216 руб, в том числе по снабжению 282.021 р. и сбыту—424.194 руб. Закупка снабженческих товаров союзом производилась в Белсельсоюзе—90 проц., у своих членов—2,1 проц. и других организаций 7,9 проц. Накладные расходы на поступившие товары в среднем равны 4,1 проц. Против прошлого года они значительно уменьшились, и это в большей степени относится за счет проведения транзитных операций.

Отпуск снабженческих товаров составляет своей низовой сети 67,4 проц., продажа населению из розничного магазина—24 проц. и прочим учреждениям—8,6 проц. В проведении снабженческих операций союза обращает на себя внимание медленность оборотов, выразившаяся только в 2,59 оборота в году.

Заготовительно-сбытовые операции союза проводились через свою сеть—11,2 проц., Белсельсоюз—13,6 проц., разных лиц—60,7 проц., собственнного производства—3,2 проц. и комиссионный сбыт—11,3 проц. Таким образом, в дальнейшем требуется усиление работы через низовую сеть. Операция эта против прошлого года увеличилась на 53 проц. Валовой прибыли по заготовительно-сбытовым операциям получено 4,9 проц. к обороту по продаже в то время, когда расходы составляют 8,5 проц. Убыточность сбытовых операций относится в большой степени за счет мясных операций.

Финансовое состояние укрупненного Могилевского союза к моменту его слияния с Климовичским союзом представляется в нижеследующих данных: баланс союза равен 863 тыс.; р., собственные капиталы в балансе занимают 15 проц., или 131 тыс. рублей, в то время, как неподвижные ценности и убыток союза равны 17,4 проц., или 149 тыс. руб. Таким образом, все собственные средства и 18.000 руб. заемных находятся в неподвижных ценностях и убытке.

Подвижная часть актива (мобильные) по балансу занимает 74,3 проц. в то время, когда привлеченные краткосрочные средства равны—67 проц. Таким образом, краткосрочные привлеченные средства полностью покрываются подвижной частью баланса. В общем необходимо отметить, что платежного напряжения союз не испытывает, но если принять во внимание, что приходится работать исключительно на заемные средства, то в конечном счете получается, что при тех надбавках, которые союз имеет, согласно установленных норм Наркомторга на отдельные товары, доходная часть союза не покрывает расходной. Это, главным образом, потому, что проценты за капитал составляют 2,5 проц. к обороту.

Отсюда вытекает необходимость изыскать метод образования собственного капитала, необходимого для ведения оперативной работы.

**Т. Р.**

---

**„Нельзя отделять хозяйственную революцию от культурной. Ножницы в этой области могут обойтись очень дорого"**

**Из доклада т. Рыкова на XV С'езда ВКП (б)**

---

# Малочная коопэрацыя ў Гомельшчыне

Малочная коопэрацыя ў Гомельскай акрузе крэпне з кожным годам. У малочныя колектывы ў цяперашні час уцягнута 1.167 сялянскіх двароў, з 2.619 каровамі, г. з. 1,7 проц. гаспадарак акругі.

Малочная коопэрацыя ў Гомельскай акрузе пачала разьвівацца толькі з 1926 г., з моманту наладжваньня Палесельсаюзам збыту малочных прадуктаў. Да 1926 г. існавала ўсяго толькі 2 малочных арцелі.

Галоўным стымулам па ўцягненьню сялянства ў малочную коопэрацыю зьяўляецца збыт малочных продуктаў сельскай гаспадаркі. Палессаюз у справе організацыі і працы арцеляў ісходзіў з таго палажэньня, што найбольш выгадным збытам для сялянства зьяўляецца збыт малака ў цэльным відзе. Аднак, збыт такога малака на Гомельскім рынку магчым толькі для бліз лежачых пасяленьняў, у 10—15 вярстах ад Гомля, інакш немагчыма сваечасовая ластаўка: малако будзе ў дарозе псавацца, кіснуць і інш.

Значыцца, для раёнаў, якія адлягаюць больш як на 10—15 верст ад гораду, неабходна організаваць перааапрацоўку малака на масла, г. з. організаваць масладзельныя арцелі.

Сець малочных коопэратываў па Гомельскай акрузе прадстаўляецца ў наступным выглядзе:

| | |
|---|---|
| Малочных па збыту цэльнага малака | 10 арцеляй |
| Колгасаў « « « | 5 « |
| Масладзельных « « « | 12 « |
| Колгасаў па збыту масла | 2 « |
| Сыразаводаў у колгасах | 3 « |
| « « сел.-гасп. таварыствах | 1 « |

Сялянскія гаспадаркі, уцягнутыя ў малочную коопэрацыю ў асноўным складаюць серадняцка-бядняцкі элемэнт. Так, гаспадаркі, члены малочных арцеляй, па кароўнасьці разьмяркоўваюцца наступным парадкам: з 1 кароваю—26 проц., з 2 каровамі—45 проц., з 3 каровамі—19,5 проц., з 4 каровамі і больш—9 проц.

Усімі арцелямі за час з 1/X 1926 г. да 1/X 1927 г. здадзена для збыту Палессельсаюзу:

| | | |
|---|---|---|
| цельнага малака | 68.104 пуд. | на 126.326 руб. |
| сьмятаны і малака | 1.168 « | « 37.500 « |
| сыру | 658 « | « 12.608 « |
| Масла ад нячленаў | | « 8.000 « |

Малако збывалася ў Гомлі праз магазыны Палессельсаюзу. Уся бяда ў тым, што паступленьне малака і малочных продуктаў ідзе па месяцах вельмі нероўнамерна: многа малака паступае ўвясну і ўлетку і мала ўвосені ўзімку.

Так, збыт і пастаўка малочных продуктаў па месяцах разьмяркоўваецца наступным парадкам:

| | | | |
|---|---|---|---|
| кастрычнік | 40.111 літр. | красавік | 113.423 літр. |
| лістапад | 29.393 « | травень | 128.205 « |
| сьнежань | 44.156 « | чэрвень | 137.399 « |
| студзень | 57.438 « | ліпень | 124.372 « |
| люты | 69.565 « | жнівень | 120.084 « |
| сакавік | 106.520 « | верасень | 109.075 « |
| | | усяго | 1.074.761 літр. |

Як бачым, самая малая колькасьць малочных продуктаў паступіла ў лістападзе—29.393 літры, а самая большая—у чэрвені—137.399 літр. Калі прасачыць цэны на малако, дык палучыцца наступны малюнак: у момант

найбольшай колькасьці малака і малочных продуктаў (май, чэрвень) цэны самыя нізкія (10—12 кап. літр) і ў кастрычніку—лістападзе—самыя высокія (20 кап. літр.).

Малочная коопэрацыя заваявала якасьцю сваіх продуктаў спажыўца, выцесьняючы ўсе больш і больш з рынку прыватніка і асабліва малочніц-разносчыц, застаўляючы апошніх таксама ісьці па шляху коопэраваньня.

Практыкуемы ў Палессельсаюзе і арцелях спосаб разьліку па % маючайся ў малацэ тлустасьці дае добрыя вынікі як у палепшаньні продуктаў, гэтак і ў справядлівым разьмеркаваньні выручаных сум паміж гаспадарак.

Сапраўды, калі параўнаць процант маючайся ў малацэ тлустасьці за 1926 і 1927 г.г., дык убачым значнае павялічэньне.

Так % тлустасьці малака складаў:

| | 1926 г. | 1927 г. |
|---|---|---|
| У сакавіку | 3,60 | 3,92 |
| « красавіку | 3,45 | 3,73 |
| « траўні | 3,30 | 3,90 |
| « чэрвені | 3,25 | 4,08 |
| « ліпні | 3,30 | 4.09 |
| « жніўні | 3,55 | 4,10 |
| « верасьні | 4,10 | 4,12 |

Валавая выручка арцеляў за малочныя продукты складае 184.716 руб.; гэта тая сума, якую мае сялянства за год ад малочных арцеляй у выглядзе валавога заработку.

Але ня гэтым толькі адным павышэньнем таварнасьці і даходнасьці малочная коопэрацыя зрабіла станоўчы ўплыў на сялянскія гаспадаркі.

Малочная коопэрацыя, як організаваны збыт малочных продуктаў, першы крок, першая ступень да перабудовы і каранной зьмены сялянскіх гаспадарак у лепшы бок. Яна прымушае гаспадаркі больш чутка прыслухоўвацца да рады інструктара-агранома, да правільнай гадоўлі, утрыманьня і ўходу за скацінаю. І прыказка—„малако ў каровы на языку", г. з., чым лепш і правільней будзе гадавацца карова, тым больш і больш будзе даваць малака,—ужо добра вывучана членамі малочных арцеляй.

Ужываньне концэнтраваных кармоў (высевак і жмых) зьяўляецца штодзённым правілам для гадоўлі скаціны ў малочных арцелях. За 1926-27 г. праз Палессельсаюз малочным арцелям адпушчана 40.000 пуд. высевак і 10.000 пуд. жмых. Попыт на гэтыя кармы перавысіў усе дапушчэньні і разьлікі і пагэтаму поўнасьцю і бесьперабойна Палессельсаюзу было цяжка забясьпечыць арцелі.

Вялікае зрушэньне ў членаў арцелі выявілась і ў справе утрыманьня скаціны—у ацяпленьні скацінных двароў. У шэрагу арцеляй ёсьць ня мала гаспадарак, ацяпліўшых, дзякуючы падзержцы Палессельсаюза, свае скацінныя двары. Заяўкі на ацяпленьне паступаюць амаль што ад усіх арцеляй.

Уяўленьне таго, што самы выгадны збыт малочных продуктаў прыпадае на асеньне-зімні час, сялянства пачынае пераводзіць ацёл кароў на восень, замест вясны.

У некаторых арцелях: Калінінскай, Касьцюковіцкай, Бабовіцкай, Пыцькоўскай і інш. набылі праізвадзіцеляў, стараюцца сваіх кароў выдзяліць з агульных стад і ўсякім спосабам змагацца з ялавасьцю кароў, гэтым грозным зьявішчам, прыняўшым вялікія разьмеры ў сучаснай вёсцы.

Перабудоўваецца таксама ў членаў арцелі і паляводства. Усе большае месца па праву пачынаюць займаць на вучастках каля сядзіб і на полі карне-клубне-плоды (сакавітыя кармы), укараняецца і пашыраецца травасеяньне (канюшына, віка і інш.)

Адным словам, зрушэньні відаць ва ўсёй гаспадарцы: пад уплывам збытавой дзейнасьці малочнай коопэрацыі яна перабудоўваецца ў больш таварную, інтэнсыўную з яскрава выяўленым ухілам у бок жывелагадоўлі, г. з. у формы больш дасканалыя і выгадныя для сялянства.

Патрэбна толькі пажадаць, каб такому зрушэньню была выказана належная ўвага і аказана помач з боку сельск.-гасп. крэдыту і зямельных органаў у справе забесьпячэньня неабходным крэдытам, правядзеньнем агрыкультурных мерапрыемств і інш., а ўсё астатняе—паглыбленьне, палепшаньне і пашырэньне працы, уцягненьне гушчаў сялянства ў малочную коопэрацыю, ахапленьне новых яшчэ не закранутых раёнаў і інш.—зробіць сама малочная коопэрацыя на чале з Палессельсаюзам.

**П. Шчэрба**

# Жилищное строительство в Бобруйщине

Бобруйский окружной союз жилищной кооперации за период своей двухлетней деятельности имеет целый ряд достижений в укреплении своей сети, оформлении ее в виде кооперативной системы и уточнении организационых форм для борьбы с жилищным кризисом.

В первый год были некоторые шереховатости в работе. Не имея еще опыта в работе, как окржилсоюз, так и товарищества зачастую испытывали разные затруднения в своей деятельности, тем более по строительству. Были созданы мелкие, карликовые, т-ва, как арендные, так и строительные.

Преследуя цель об'единения средств по строительным т-вам и сокращения накладных расходов по арендным, окржилсоюзом в этом отношении принят целый ряд мероприятий по укреплению и об'единению товариществ. В первую очередь укрепление производилось за счет муниципализированной площади комхоза, а во вторую очередь—путем об'единения мелких т-в арендных и слияния строительных.

В настоящее время Бобруйский жилсоюз об'единяет 8 строительных и 10 арендных т-в. Строительные т-ва все расположены при промышленных предприятиях, за исключением одного т-ва, которое производит исключительно каменное строительство в центре города.

До настоящего времени по округу было введено жилищное кооперативное строительство только по пяти районам, теперь же на зимний период жилсоюз имеет целью выявить все промышленные пункты округа и, по мере целесообразности, ввести кооперативное строительство в таковых, а с другой стороны, принять всю оставшуюся жилплощадь комхозов.

Результат работы истекшего периода следующий: выстроено до 90 квартир, отремонтировано капитально 223 квартиры, а всего кооперативной жилплощади имеется 13,163 кв. метр. Построены и хорошо оборудованы 2 детские площадки на 150 детей.

Паевой капитал на 1 января 1927 г. выражался в сумме 13.134 р., на 1-ое октября 1927 г. 48.700 р., т. е. возрос почти в 4 раза; пайщиков на 1-ое января было 436 человек, на 1-ое октября 1927 г.—742, что показывает рост на 70 проц.

**Ок-юз**

**Необходимо, чтобы правление каждого кооператива поставило задачу кооперирования и сбора паев самой боевой, неотложной своей задачей. Если это будет—успех кампании обеспечен: кооперация будет иметь новые миллионы средств, а с ними такое развитие кооперации, какого мы еще никогда и нигде не видели**

**Нашим лозунгом должно быть: „ни одного крестьянского двора без облигации займа укрепления крестьянского хозяйства“. Все силы—на это важнейшее дело. Общими силами—к общему благу**

# ДАРАДЧЫ АДДЗЕЛ

## Перечень из'ятий и льгот по государственному промысловому налогу

### Постановление Центрального Исполнительного Комитета и Совета Народных Комиссаров Союза ССР

### о дополнении Положения о государственном промысловом налоге от 24 сентября 1926 года приложением VI, содержащим перечень из'ятий и льгот по государственному промысловому налогу

Центральный Исполнительный Комитет и Совет Народных Комиссаров Союза ССР постановляют:

1. Отменить примечание к ст. 1 Положения о государственном промысловом налоге от 24 сентября 1926 года („С. З. Союза ССР" 1926 г. № 63, ст. 471, и 1927 г. № 19, ст. 213) и дополнить это Положение утвержденным сего числа приложением VI, содержащим перечень из'ятий и льгот по государственному промысловому налогу, и ввести означенное приложение в действие с 1 октября 1927 г.

2. Дополнить Положение о государственном промысловом налоге от 24 сентября 1926 года главой об из'ятиях и льготах по государственному промысловому налогу в составе статей $46^1—46^5$ следующего содержания:

„$46^1$. Из'ятия и льготы по государственному промысловому налогу предусматривают в перечне, прилагаемом к настоящему положению (приложение VI). Не предусмотренные упомянутым приложением из'ятия и льготы устанавливаются в порядке ст. ст. $46^2—46^5$ настоящего Положения.

„$46^2$. Народный Комиссариат Финансов Союза ССР имеет право предоставлять льготы в виде понижения промыслового налога или освобождения от него: а) категориям плательщиков; б) отдельным государственным предприятиям общесоюзного значения, акционерным обществам, подлежащим регистрации в Народном Комиссариате Внешней и Внутренней Торговли Союза ССР, и кооперативным организациям общесоюзного масштаба; в) отдельным предприятиям, подлежащим обложению в централизованном порядке (ст. 26), если заведения их находятся в пределах двух или нескольких союзных республик.

Примечание. Постановления Народного Комиссариата Финансов Союза ССР по вопросам о предоставлении льгот в порядке настоящей статьи могут быть обжалованы в установленном порядке в Совет Народных Комиссаров Союза ССР"

„$46^3$. Народные комиссариаты финансов союзных республик имеют право предоставлять льготы в виде понижения промыслового налога или освобождения от него отдельным плательщикам (за исключением указанных в п. п. „б" и „в" ст. $46^2$) и группам таких плательщиков.

Примечание. Постановления народных комиссариатов финансов союзных республик по вопросам предоставления льгот, согласно настоящей статьи, могут быть обжалованы в установленном порядке в советы народных комиссаров соответствующих союзных республик".

„$46^4$. Льготы, предусмотренные ст. ст. $46^2$ и $46^3$, предоставляются на срок не более года, при чем, если эти льготы не будут отменены за два месяца до наступления бюджетного года, они считаются продолженными на следующий бюджетный год".

„$46^5$. Из'ятия, не предусмотренные ст. ст. $46^2$ и $46^3$, устанавливаются Советом Народных Комиссаров Союза ССР".

3. Предложить Совету Народных Комиссаров Союза ССР в месячный срок утвердить перечень законов Союза ССР, утративших силу с введением в действие настоящего постановления, и внести в установленном порядке соответствующие изменения в законодательство Союза ССР.

Председатель Центрального Исполнительного Комитета Союза ССР А. Червяков.

Зам. Председателя Совета Народных Комиссаров Союза ССР А. Цюрупа.

Секретарь Центрального Исполнительного Комитета Союза ССР А. Енукидзе.

Москва, Кремль, 14 декабря 1927 г.

Приложение VI к Положению о государственном промысловом налоге.

## Перечень из'ятий и льгот по государственному промысловому налогу

1. Освобождаются от промыслового налога следующие кооперативные организации и их операции; а) все первичные кооперативные организации, если общий облагаемый оборот всех предприятий (заведений) данной кооперативной организации за год, предшествующий окладному, не превысил 20.000 рублей; б) все входящие в соответствующую кооперативную систему первичные кооперативные организации в том окладном году, в котором они возникли; в) содержимые вне городов первичными кооперативами (в том числе земледельческими артелями и коммунами) и внесенные в списки, составляемые народным комиссариатом финансов соответствующей союзной республики по соглашению с республиканским центром кооперации соответствующего вида и республиканским кооперативным советом, где таковые учреждены, сельскохозяйственные предприятия (заведения по добыче и по первичной обработке продуктов полеводства, скотоводства, молочного хозяйства, огородничества, садовладельческого виноделия и т. п.; г) содержимые кооперативными организациями (в том числе земледельческими артелями и коммунами) случные, прокатные, зерноочистительные пункты и т. п., а также мастерские для ремонта сельско-хозяйственных орудий и кузницы; д) первичные сельскохозяйственные кооперативы, производящие: 1) сбыт, без содержания розничных торговых заведений, произведений сельского хозяйства своих членов и 2) снабжение семенами, фуражем, земледельческими орудиями, ремонтным материалом и т. п. предметами, необходимыми для сельского хозяйства; е) промысловые кооперативные товарищества (артели): 1) занимающиеся снабжением исключительно своих членов материалами и орудиями производства, а также сбытом, без содержания розничных торговых заведений, их изделий и 2) ведущие работу в общих мастерских (предприятиях), за исключениями, предусмотренными примечаниями 3 и 4 к настоящей статье; ж) уставные трудовые артели, если для производства их операций не содержится торговых заведений; з) содержимые кооперативными организациями дома отдыха, обслуживающие исключительно членов этих организаций; и) жилищно-арендные и рабочие жилищно-строительные кооперативные товарищества, а также союзы жилищной кооперации всех степеней по операциям эксплоатации, ремонта и сооружения жилых домов; к) закупка (заготовка) на деньги (но не в обмен), производимая кооперативными организациями низших степеней по заданиям вышестоящих кооперативных об'единений той же системы.

Примечание 1. Народному Комиссариату Финансов Союза ССР, по соглашению с Всесоюзным центральным кооперативным советом, предоставляется право распространять действие п. „б" настоящей статьи на кооперативные организации, не входящие в кооперативную систему.

Примечание 2. Если указанные в п. „е" настоящей статьи товарищества (артели) находятся в пределах района соответствующего по производству промыслового союза, то они пользуются упомянутой в названном пункте льготой лишь при условии вхождения их в эти союзы.

Примечание 3. Предусмотренные п. „е" настоящей статьи промысловые кооперативные товарищества (артели), ведущие работу в общих мастерских (предприятиях) более крупного масштаба, подлежат обложению промысловым налогом, при чем признаки, по которым упомянутые товарищества (артели) относятся к категории облагаемых, устанавливаются Народным Комиссариатом Финансов Союза ССР по соглашению с Высшим Совета Народного Хозяйства Союза ССР.

Примечание 4. Означенные в подразделении 2 п. „е" настоящей статьи промысловые товарищества (артели) привлекаются к промысловому налогу по принадлежащим им розничным торговым предприятиям.

Примечание 5. На торговлю своими изделиями, производимую промысловыми кооперативными товариществами (артелями) из мастерских (предприятий), а также через своих членов с рук, с лотков, с земли или с возов на ярмарках, базарах, рынках и в других местах, не требуется выборки особого патента на торговое предприятие.

Примечание 6. Означенные в п. „ж" настоящей статьи трудовые артели имеют право выбирать на конторы, содержимые ими для приема поручений на производство силами исключительно членов артели работ и на откуп, вместо соответствующего патента на торговые предприятия, патент на промышленное предприятие по числу членов артели.

2. Ставки патентного сбора и проценты обложения уравнительным сбором для принадлежащих кооперативным организациям торговых и промышленных предприятий, не освобождаемых от промыслового налога, понижаются: а) для потребительских кооперативных организаций—на 25 проц., если эти предприятия обслуживают только членов данной организации, и на 10 проц., если они обслуживают не

